КНІГАНОША
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 27
жнівень, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

# Вольга ГАПЕЕВА: «Я ніколі не раблю эксперымент дзеля эксперымента...»

**– Шаноўная спадарыня Вольга, у Вашых кнігах «Прысак і пожня» і «(В)ядомыя гісторыі» паэзія цесна звязаная з іншымі відамі мастацтва: музыкай, кіна- і фотамастацтвам. Гэтыя кніжкі былі толькі своеасаблівым эксперыментам, альбо Вы шукалі магчымасць выйсці за межы тэксту, выказаць не толькі свае думкі і пачуцці, але і сваё ўспрыманне, бачанне, настрой, эмоцыі і перадаць іх чытачу? Распавядзіце пра тое, як узнікла ідэя гэтых праектаў, ці ўдалося рэалізаваць задуманае і якім будзе працяг?**

– Што датычыць кнігі «Прысак і пожня», то яе можна разглядаць як звычайную кнігу «незвычайнай» паэзіі, да якой проста далучаны дыск. Але не буду адмаўляць таго факту, што я эксперыментую і часта займаюся сінтэзам мастацтваў. У мяне ёсць сумесныя праекты з электроннымі музыкамі, зараз рыхтую мастацкі праект (інсталяцыі, аб'екты) з мастачкай з Чарнагорыі. Але я ніколі не раблю эксперымент дзеля эксперыменту, гэта заўсёды выклікана жаданнем (неабходнасцю) закрануць як мага больш пачуццяў, выказаць сябе праз усе магчымыя бакі пачуццёвасці. Да прыкладу, неяк аднойчы я была на выставе драўлянай скульптуры ў Нямеччыне, і там замест цыдулак «не чапайце экспанаты» (якія ў 99% размяшчаюць побач з аб'ектамі экспазіцыяў у музеях ці галерэях) было напісана «калі ласка, датыкніцеся». Вось я вельмі люблю такія «нестандартныя», але ў той жа час простыя падыходы да мастацтва і да камунікацыі з аўдыторыяй.



фота Алены КАЗЛОВАЙ.

**– Вы часта бываеце за мяжой, удзельнічалі ў шматлікіх міжнародных канферэнцыях і літаратурных фестывалях, часта**

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Вольга Гапеева – паэтка, празаік, перакладчыца. Аўтар кніг «Рэканструкцыя неба» (2003), «Няголены ранак» (2008), «Метад муаравых крэсак» (2012), «Прысак і пожня» (2013), «(В)ядомыя гісторыі» (2014), «Сумны суп» (2014) і інш. Нарадзілася ў 1982 годзе ў Мінску, дзе і жыве.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА



**Арабей Лідзія. Выбраныя творы. Прадм. Л. Савік. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 608 с.: [8] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

Кнігу выбраных твораў вядомай беларускай пісьменніцы Лідзіі Арабей (н. 1925) склалі найбольш значныя аповесці, апавяданні і абразкі. У том уключана і дакументальная аповесць пра выдатную беларускую паэтэсу пачатку XX стагоддзя Алаізу Пашкевіч (Цётку) «Стану песняй».



**Сяднёў Масей. Выбраныя творы. Уклад., прадм. і камент. Л. Савік, уклад. К. Цвіркі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 608 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

Творчасць выдатнага беларускага пісьменніка Масея Сяднёва (1915–2001) доўгі час была незнаёмая нашаму чытачу. Вырваўшыся з засценкаў НКВД, куды яго, студэнта Мінскага педінстытута, беспадстаўна кінулі ў 1936 годзе, ён мусіў уцячы за мяжу і жыць у эміграцыі. Як «ворагу народа» яму забаранялі друкавацца на Радзіме. Гэтая кніга ўпершыню шырока знаёміць беларусаў з мнагагранным творчасцю Масея Сяднёва.



**Чыгрын Сяргей. Хочацца дахаты: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі, лісты, аўтографы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 240 с.**

У сваю кнігу Сяргей Чыгрын уключыў артыкулы пра людзей малавядомых, але якія заслужылі ўдзячную памяць беларусаў, – такіх як Андрэй Вайтовіч, Віталь Губарэвіч, Аляксандр Асіпчык, Ганна Кароль, Васіль Струмень, Ян Збажына і іншых. Асобныя раздзелы кнігі прысвечаны Міколу Арочку, Янку Саламевічу, Аляксею Пысіну, Міколу Гайдуку, Юрку Гешюшу, Сакрату Яновічу. У кнізе змешчаны гутаркі з Арсенем Лісам, Міколам Чарняўскім, Міхасём Мірановічам Апублікаваны і старонкі гісторыі Слонімшчыны, артыкулы пра новыя, выпушчаныя ў апошнія гады, кнігі беларускіх аўтараў і выданні пра Беларусь.



**Барадулін Рыгор. Сны сасны: вершы. Уклад. А. Камоцкі; фат. В. Грудзько. – Мінск: Галіяфы. 2014. – 158 с.: фат.**

Кніга вершаў Рыгора Барадуліна, праілюстраваная фотаздымкамі вядомага фотамастака Вадзіма Грудзька. Дадаткам да кнігі ёсць аўдыядыск, што змяшчае трыццаць хвілінаў паэзіі ў аўтарскім выкананні.



**Палачанскі Аляксей. Мой цвік: апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 108 с. – (Час Воблы; вып. 5).**

Кніга Аляксея Палачанскага «Мой цвік» – прыклад маладой беларускай прозы, дзе ўздымаюцца праблемы сучаснасці праз унутраны свет лірычнага героя і персанажаў апавяданняў. Насычанасць тэкстаў разважаннямі і сканцэнтраванасць на ўнутраных спробах зразумець сябе ў гэтым свеце ствараюць атмасферу адчужанасці і разгубленасці, што набліжае дэбютную кнігу А. Палачанскага да такіх кірункаў у літаратуры як экзістэнцыялізм і экспрэсіянізм.



**Бахарэвіч Альгерд. Ніякай літасьці Альгерду Б. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 174 с.**

Улетку 2013 года, вярнуўшыся з Гамбурга ў Мінск, аўтар гэтай кнігі пачаў весці штотыднёвую калонку на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» budzma.by. У выніку амаль за год ім было панісана блізу сарака эсэ, прысвечаных самым розным праявам беларускага жыцця. Культура і гісторыя, літаратура і КІНО, мроі і спадзяванні, асабістае і грамадскае, вечнае і надзённае, Беларусь як частка Еўропы і Еўропа як беларускі СОН – вось толькі некаторыя з тэмаў, якія зрабіліся вызначальнымі для гэтай КНІГІ. Кніга пра сваё, напісанай тут і цяпер.



**Дзмітрыеў Дзмітры. Ліра спіралі. Вершы: паліндромы, амбіграмы, гетэраграмы, траспаліты ды інш. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 80 с.**

«Ліра Спіралі» – адмысловы сплаў эксперымента і філасофіі. Кніга паэзіі змяшчае творы, напісаныя на працягу 2006–2012 гадоў. Каліграфічныя тэксты з напластаваннем сэнсаў, паліндрамічныя ланцужкі, дапасаванне формы і зместу на старонках кнігі выносяць чытача на памежжа паэзіі і дакладнай навукі.



**Вівэг Міхал. Цудоўныя гады сабаку пад хвост: раман. Пер. з чэшск. Сяргея Сматрычэнкі. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 288 с. – (Чэшская калекцыя).**

Раман «Цудоўныя гады сабаку пад хвост» Міхала Вівэга, выдадзены ў 1992 годзе, адразу прынёс свайму аўтару славу як на радзіме, так і за мяжой і зрабіўся адной з самых прадаваных і перакладаных чэшскіх кніг у гісторыі. Настальгічна-іранічны аўтарскі погляд надае сумным, а часам і трагічным падзеям, апісаным у кнізе, непаўторнае гучанне, а аўтабіяграфічнасць, па-майстэрску спалучаная з фантазійнасцю і літаратурнай гульнёй, дадае напружанасці.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Доўскава Ірэна. Моцны Жбуць: раман. Пер. з чэшск. Веранікі Бяльковіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 168 с. – (Чэшская калекцыя).**

У рамане «Моцны Жбуць» Ірэна Доўскава вяртаецца ў часы свайго дзяцінства – змрочны перыяд чэхаславацкай нармалізацыі 1970-х гг. Сямейныя непаразуменні, школьнае жыццё і атмасфера правінцыйнага тэатра, дзе працуюць бацькі, ствараюць рэчаіснасць, якую спрабуе асэнсаваць схільная да лішніх разважаў і лішняй вагі дзевяцігадовая Гэленка Соўчкава. Гэты аўтабіяграфічны раман паўніцца смешнымі і сумнымі гісторыямі жыцця тыповага сацыялістычнага райцэнтра, якое можна падацца знаёмым і беларускаму чытачу.




**Фрэдра Аляксандр. Помста: камедыі. Пер. з польск, А. Хадановіча і М. Мартысевіч. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 270 с.**

Аляксандр, граф Фрэдра (1793–1876) – класік польскага тэатру, горача любімы публікай і цяпер, у XXI стагоддзі. На беларускую мову перакладзены ўпершыню. Увазе чытача – дзве самыя знакамітыя вершаваныя камедыі Фрэдры – «Дзявочыя Зарокі, або Магнетызм сэрца» (пастаноўка 1833 г.) і «Помста» (пастаноўка 1834 г.).




**Вальзер Роберт. Шпацыр. Пер. з нямецк. В. Гапеевай. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 80 с.**

Апавяданне «Шпацыр» выдатнага швейцарскага пісьменніка Роберта Вальзера – гэта светлае і змрочнае, лёгкае і невыноснае падарожжа ў свет вонкавы і свет унутраны. Напісанае яшчэ ў 1916 г., яно застаецца актуальным і сёння.

Роберт Вальзер нарадзіўся ў 1878 г. у г. Білі (Швейцарыя), памёр у 1956 г., правёўшы апошнія 23 гады свайго жыцця ў якасці пацыента клінікі для псіхічнахворых.




**Мудроў Вінцэсь. Багун: проза. – Полацкае ляда, 2013. – 278 с.**

«Мудроўскія творы няпростыя і не кожны можа іх расчытаць. Гэта сур'ёзная літаратура, якая бярэ выток з класічнай гуманістычнай еўрапейскай літаратуры. І калі, напрыклад, Оруэл у сваіх творах пужае сацыяльнымі наступствамі дэспатычнага рэжыму, дык Мудроў імкнецца паказаць усю яго абсурднасць і ў той самы час эфемернасць, бо ствараем таталітарызм мы самі, сваім канфармізмам, бязволлем, лайдацтвам», – піша ўкладальнік кнігі Алесь Аркуш у прадмове.




**Бяляцкі Алесь. Іртутнае срэбра жыцця. Пралог: нататкі праваабаронцы. Падрыхтоўка да выданьня Алены Лапцёнак. – Менск, 2014. – 208 с.: іл.**

Беларускі праваабаронца, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) Алесь Бяляцкі, асуджаны па палітычных матывах на чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, у сваіх лістах на волю згадвае апошнія падзеі, якія папярэднічалі арышту, найбольш важныя і цікавыя моманты з замежных паездак. Першыя лісты для гэтай кнігі напісаныя ў верасні 2012 года, апошнія – у чэрвені 2013, але змешчаны яны па храналогіі падзеяў, а не па датах напісання, з захаваннем на пісьме традыцыйнай для беларусаў мяккасці маўлення.

Асобна пададзеныя лісты «Сустрэчы салідарнасці», падрыхтаваныя да публікацыі іх адрасаткай Ірынай Пракопчык. Большасць фотаздымкаў, змешчаных у кнізе, была адабрана для фотавыставы ў сувязі з 15-годдзем ПЦ «Вясна».




**Гордэр Юстэн. Сафіін свет: раман пра гісторыю філасофіі. Пер. з нарвежскай Лідыі Ёхансан пад рэдакцыяй Зміцера Коласа. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 560 с.**

Гэтая кніга – неверагодна займальнае падарожжа ў свет філасофіі. Разам з ёю чытач пройдзе тысячагадовымі дарогамі чалавечай думкі, праз пошукі сутнасці існага, Бога і сэнсу жыцця, паспрабаваўшы пранікнуць, следам за найлепшымі мыслярамі чалавецтва і героямі рамана, у глыбіні пазнання Сусвету і самога сябе. Задуманы для падлеткаў, раман будзе цікавы чытачу любога ўзросту.




**Янсан Тувэ. Небяспечнае лета. Пер. з швед. Алесі Башарымавай; ілюстрацыі Тувэ Янсан. – Мінск; Зміцер Колас, 2014. – 140 с.; іл.**

Казачная аповесць «Небяспечнае лета» – яшчэ адна з серыі кніг, прысвечаных мумітролям, чароўным і забаўным істотам, прыдуманым, апісаным і намаляваным выдатнай фінскай пісьменніцай і мастачкай Тувэ Янсан (1914–2001). Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту, а таксама ўсім аматарам і заўзятарам мумітроляў.




**Альгерд Бахарэвіч. Каляндар Бахарэвіча. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. – 464 с.: іл.**

«Каляндар Бахарэвіча» – 366 эсэ пра падзеі, асобы і факты гісторыі, якія варта ведаць, каб адчуць сябе часткай чалавецтва. Рэкамендуецца для любога ўзросту, пажыццёвых зняволенняў і палётаў на Марс.

# Школа маладога пісьменніка пабывала ў Магілёве

**25 чэрвеня ў магілёўскім грамадскім цэнтры «Кола» адбылася вечарына – паказаць свае творы і пазнаёміцца з магілёўцамі прыехалі выпускнікі Школы маладога пісьменніка, якая ўжо другі год дзейнічае пры СБП.**

У складзе «літаратурнага дэсанту» – сем навучэнцаў Школы з Гродна, Гомеля, Магілёўскага раёна, Мінска, а таксама адна з каардынатарак Школы Алена Казлова (Анка Упала) і паэтка Віка Трэнас. Вечарына прайшла ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».


Міраслаў ШАПАВАЛАЎ, Артур КАМАРОЎСКІ, Воля АГАПОНАВА.

Сустрэлі гасцей сябры гарадскога літаратурнага клуба «Святліца» на чале з Тамарай Аўсяннікавай, Старшыня магілёўскага абласнога аддзялення СБП Мікола Яцкоў, паэтка Ала Яцкова, старэйшыя пісьменнікі Міхась Булавацкі, Эдуард Мядзведскі, малады паэт Аляксей Карпенка ды іншыя.

Сёлета маладыя аўтары пад кіраўніцтвам выкладчыкаў Наталкі Бабінай, Ганны Бутырчык і Людмілы Рублеўскай асвойвалі ў Школе маладога пісьменніка майстэрства прозы. Але на імпрэзе дзяўчаты і хлопцы чыталі і апавяданні, і вершы.

Вольга Агапонава (Гародня), Лілія Гусарава (Магілёўскі р-н), Артур Камароўскі (Гародня), Анастасія Кацюргіна (Гомель) выступілі і з празаічнымі, і з паэтычнымі тэкстамі. Большасць навучэнцаў Школы пачыналі пісаць па-руску, але цяпер спрабуюць па-беларуску ці прынамсі перакладаюць свае творы на родную мову. Нехта піша паралельна на дзвюх мовах, як, напрыклад, Воля Агапонава. На пытанне, наколькі складана існаваць адначасна ў дзвюх розных ментальнасцях, дзяўчына адказала, што асабіста для яе гэта спосаб бачыць свет больш разнастайным, бо ёсць тэмы, асвятляць якія можна толькі па-руску, або ў іншым выпадку – толькі па-беларуску.

Цягам імпрэзы пісьменнікі і чытачы не аднаразова абмяркоўвалі з'яву білінгвізму і яе ўплыў на творчасць і мысленне, што актуальна для нашага грамадства ўжо колькі стагоддзяў і па сённяшні дзень.

Мікіта Волкаў і Павел Якуць прачыталі свае беларускамоўныя апавяданні, а Міраслаў Шапавалаў – рускамоўнае. Зрэшты, усе – і хлопцы, і дзяўчаты – аднолькава добра былі прынятыя гледачамі, іх выступленні запомніліся непадробнай шчырасцю, эмацыйнасцю, артыстызмам.

Пісьменніца Алена Казлова (Анка Упала) як адна з мадэратарак навучання распавяла пра арганізацыю працы Школы і адказала на пытанні сваіх землякоў. Паэтка Віка Трэнас праанансавала свежы, 70-ты нумар часопіса «Дзеяслоў» і прачытала некалькі новых вершаў.

На заканчэнне сустрэчы свае творы прачыталі выхаванцы гарадскога літаратурнага клуба «Святліца», а аўтары найлепшых пытанняў, зададзеных гасцям, атрымалі падарункі ад грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

**Тэкст ВТ, фота Алены Казловай для lit-bel.org**






**Надсан Аляксандр. Выбранае. Уклад. і камент. І. Баграновіч, прадм. Л. Савік. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 608 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 2. Гісторыка- літаратурныя помнікі).**

У кнізе змешчаны творы вядомага святара – апостальскага візітатара для беларусаў-католікаў замежжа айца Аляксандра Надсана, якія адлюстроўваюць усё багацце і змястоўнасць яго багаслоўскай, пастырскай, літаратурна-навуковай, грамадска-публіцыстычнай, гістарычнай, асветніцкай і перакладчыцкай дзейнасці. Кніга ўкладзена паводле тэматычнага і жанравага прынцыпаў. Асобны раздзел яе складаюць пастырскія пасланні (калядныя, велікодныя ды іншыя), казанні, духоўныя разважанні, дзе напоўніцу раскрываецца святарскае пакліканне а. Аляксандра, яго прапаведніцкі талент. Упершыню друкуюцца зробленыя ім пераклады псалмоў. У дадатку сабраныя матэрыялы, прысвечаныя а. Аляксандру, што раскрываюць з розных бакоў неардынарнасць яго асобы.

Кніга разлічана на навукоўцаў-гуманітарыяў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных установаў, святароў і вернікаў, а таксама шырокае кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй і культурай Беларусі ў нашай краіне і за яе межамі.




**Віленскія выданні Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння: да 490-годдзя кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім: матэрыялы IV Скарынаўскіх чытанняў (Мінск, 27 красавіка 2012 г.). Пад рэд. І. Э. Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 148 с. – (Беларусіка = Albaruthenica; Кн. 35).**

У зборніку змешчаны артыкулы, якія былі прадстаўлены ў выглядзе дакладаў і паведамленняў на Чацвёртых Скарынаўскіх чытаннях «Віленскія выданні Францыска Скарыны ў кантэксце эпохі Адраджэння». Чытанні былі прысвечаны 490-годдзю кнігадрукавання ў Вялікім Княстве Літоўскім і адбыліся 27 красавіка 2012 г. на філалагічным факультэце БДУ. Матэрыялы, змешчаныя ў зборніку, асвятляюць важныя праблемы сучаснага скарыназнаўства, дадаюць новыя цікавыя штрыхі ў разуменне творчай спадчыны і асветніцкай дзейнасці першадрукара, закранаюць пытанні рэцэпцыі і інтэрпрэтацыі вобраза Скарыны і яго справы ў творах літаратуры і мастацтва. Матэрыялы Трэціх Скарынаўскіх чытанняў выдаваліся ў 1998 г. пад назвай «480 год беларускага кнігадрукавання».




**Вілейскі павет. Гісторыка-краязнаўчы гадавік. Вып. 1. Укл. С. Макарэвіч, Д. Канецкі. – Мінск: Галіяфы, 2014,– 182 с.**

«Вілейскі павет» – гісторыка-краязнаўчы гадавік, які будзе знаёміць з гісторыяй пэўнага рэгіёна – Вілейшчынай. Гэта пляцоўка для даследчыкаў – падзяліцца сваімі адкрыццямі, а для чытачоў – атрымаць займальнае і пазнавальнае чытанне пра край.




**Лыч Леанід. Першаму з’езду беларусаў свету – 20 гадоў. – Мінск, 2013. – 116 с.**

Кніга прысвечана станаўленню і дзейнасці Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» па наладжванні стасункаў метраполіі Беларусь са сваім блізкім і далёкім замежжам. Падрабязна асвятляецца, які вялікі ўклад для дасягнення гэтай мэты мелі Першы сход беларусаў блізкага замежжа і Першы з’езд беларусаў свету. Разлічана на тых, каго цікавяць праблемы сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця Беларусі і яе дыяспары.




**Лыч Леанід. Культурнае супрацоўніцтва беларускага і ўкраінскага народаў – гарант захавання іх нацыянальнай ідэнтычнасці. – Мінск, 2013. – 90 с.**

У кнізе асвятляецца шматграннае, плённае культурнае супрацоўніцтва беларускага і ўкраінскага народаў, паказана яго вырашальная роля ў захаванні іх нацыянальнай ідэнтычнасці, ва ўзбагачэнні культурнай разнастайнасці славянскай этнічнай супольнасці, у прадухіленні негатыўных наступстваў усходняга вектару сусветнай глабалізацыі. Разлічана на шырокае кола чытачоў і найперш тых, каго цікавяць праблемы культурнага жыцця славянскіх народаў.




**Смалянчук Алесь. Беларуская гісторыя: знайсці чалавека. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 158 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Тэксты кнігі тычацца беларускай гісторыі штодзённасці, біяграфістыкі ды вуснай гісторыі. Іх лучыць аўтарскае імкненне зразумець Чалавека ў айчыннай гісторыі, матывы яго паводзінаў, каштоўнасныя арыенціры.




**Трафімчык Анатоль. Ленін і Сталін думаюць пра Беларусь. – Мінск: Логвінаў, 2013. – 104 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Даследаванне выкрывае фарысейскую палітыку кіраўніцтва бальшавіцкай Расіі стасоўна лёсу Беларусі; прыводзяцца пераканаўчыя доказы таго, што ленінска-сталінскі Крэмль быў супраць беларускай дзяржаўнасці, але рэальнасць геапалітычнай сітуацыі ў сімбіёзе з амбіцыямі на сусветную рэвалюцыю вымусіла яго з «беларускае карты» зрабіць козыр і пайсці – хаця б фармальна – на стварэнне Савецкай Беларусі.

Кніга разлічаная не толькі на спецыялістаў-гісторыкаў, але і на ўсіх, каго цікавіць станаўленне беларускай дзяржаўнасці.




**Ліс Арсень. Аляксандр Цвікевіч: Выдатны публіцыст і гісторык. – Мінск: «Харвест», 2014. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Аляксандр Цвікевіч (1883–1937) – выдатны беларускі публіцыст, гісторык, грамадска-палітычны дзеяч. Даследаваў пытанні нацыянальнага Адраджэння, фарміравання самасвядомасці і развіцця дзяржаўнасці беларускага народа. Аўтар мноства артыкулаў і шэрага кніг, сярод якіх найбольш значная і знакамітая – «Заходнерусізм» (1929 г.). Быў забіты сталінскімі катамі.




**Тарас Анатоль. Орша, 8 сентября 1514 года. – Минск: Харвест, 2014. – 160 с.: ил. – (Неизвестная история).**

Кніга прысвечана вайне паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім у 1512–1522 гадах, адной з найважнейшых падзеяў якой стала бітва пад Оршай 8 верасня 1514 года. Прааналізаваны перадгісторыя гэтай вайны, планы і сілы бакоў, ход Аршанскай бітвы, яе наступствы.




**Шумская Ирина. Шедевры нашей старины. – Минск: «Харвест», 2014. – 206 с. + 16 с. вкл.; ил. – (Неизвестная история).**

Беларусь багатая на помнікі гісторыі і культуры. Яны здзіўляюць сваёй разнастайнасцю і самабытнасцю, гнятуць безгаспадарлівым стаўленнем да сябе з боку ўладаў і мясцовых жыхароў. Хоць менавіта яны ўяўляюць сабою матэрыяльную квінтэсенцыю гістарычнага мінулага народа, без якога немагчыма выбудаваць паспяховую праекцыю ў будучыню. Аўтар кнігі займальна распавядае пра найбольш цікавыя архітэктурныя помнікі нашай Айчыны.




**Гарадзенскі соцыум 2013. Гісторыя і памяць. XV – XX стст. Пад рэд. А.К. Краўцэвіча і А.Ф.Смаленчука. – Гродна, 2014. – 332 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

Зборнік уключае матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, што адбылася ў Гродна ў лістападзе 2013 г. Матэрыялы зборніка «Гарадзенскі соцыум» прысвечаныя пераважна палітычнай і сацыяльнай гісторыі Гродна ды іншых гарадоў Беларусі. Галоўным героем зборніка з'яўляецца гараджанін як суб'ект лакальнай гісторыі, а таксама гісторыка-культурнае асяроддзе, у якім праходзіла яго жыццё. Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць гісторыя Беларусі.




**Горад Святога Губерта: альманах лакальнай гісторыі. Выпуск 9 (2014). Рэдкал. І. Соркіна [і інш.]. – Гродна, 2014. – 32 іл. – 175 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

Чарговы выпуск альманаха змяшчае матэрыялы па розных праблемах гісторыі Гродна і Гродзеншчыны. Сярод тэмаў нумару: паліцэйскі нагляд у горадзе над Нёманам у першай палове XIX ст., «сімвалічнае прысваенне» гарадской прасторы «заходнерускімі» дзеячамі 60-х гадоў XIX ст., архітэктурна-планіровачныя змены ў міжваенным Гродна, гродзенскі водгук маскоўскай «справы лекараў» і іншыя праявы дзяржаўнага антысемітызму ў Савецкай Беларусі канца 1940-х – пачатку 1950-х гг., лёс праваслаўнай і каталіцкай царквы на Гродзеншчыне ў 1944–1964 гг. ды іншыя. Упершыню друкуюцца гімназічныя атэстаты Івана і Антона Луцкевічаў.




**Беларуская даўніна. Вып. 1. – Мінск, 2014. – 188 с., іл.**

У альманаху друкуюцца даследаванні, прысвечаныя слабаасветленым аспектам гісторыі Беларусі перыяду Сярэднявечча і пачатку Новага часу (X–XVIII ст.). Асабліва важная мэта выдання – гэта аднаўленне археаграфічных экспедыцыяў за мяжой, некаторыя вынікі якіх можна пабачыць ужо ў дадзеным выпуску.




**Махнач Мікалай. Доўгая дарога да свабоды. Укладанне, літаратурная апрацоўка Міхась Чарняўскі. – Мінск: Тэхналогія, 2014. – 135 с.**

Гэтая кніга сваім сюжэтам нагадвае авантурны раман. Беларускі хлопец з Валожына, мабілізаваны ў 1941 годзе на лесарасправцоўкі ў Карэлію, прайшоўшы шмат выпрабаванняў, трапляе па нейкім часе – праз Сярэднюю Азію, Блізкі Усход, Афрыку і Апеніны – у Брытанію, а потым у Амерыку... Але гэта не мастацкая выдумка. Гэта праўдзівы жыццяпіс удзельніка Другой сусветнай вайны на заходнім тэатры ваенных дзеянняў. Бліскучая памяць аўтара ўзнаўляе мноства фактаў, імёнаў, лічбаў, трапных назіранняў. У дадатку да кнігі – не менш змястоўныя ўспаміны яго сястры, Валянціны Махнач-Слабодчыкавай, і выбранае ліставанне.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89

■ ПОГЛЯД

# Успаміны пра мястэчка

**Стома Васіль. Маё мястэчка. Прадм. Лявон Юрэвіч; рыхт. тэксту і моўная рэд. Зміцер Саўка; камент. Зміцер Саўка і Наталля Гардзіенка. – Мінск: Лімарыус, 2014. – 292 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

У кнізе ўпершыню ў Беларусі ў поўным варыянце друкуюцца ўспаміны эміграцыйнага дзеяча Васіля Стомы (1911–1992). Ва ўспамінах апісваецца заходнебеларускае мястэчка Лужкі ў міжваенны час такім, якім яго запомніў аўтар. У творы ўзгадваюцца ксёндз Язэп Германовіч, вядомы доктар Усевалад Шыран, святар Іван Кушнер, жонка Станіслава Булак-Булаховіча. Аўтар з замілаваннем і пяшчотай распавядае пра сваё дзяцінства і юнацтва ў Лужках, вуліцы, будынкі і жыхароў мястэчка. Напісаныя жывой, сакавітай моваю, з уласцівым аўтару гумарам і самаіроніяй успаміны чытаюцца як паўнавартасны мастацкі твор.

Раздзел «Абрады і звычаі Дзісненшчыны» будзе карысны не толькі для фалькларыстаў, краязнаўцаў, але і ўсім, хто цікавіцца народнай культурай і традыцыямі. Усе абрады аўтар падзяліў на звязныя з рэлігійнымі святамі і сямейныя. У раздзеле, прысвечаным Калядным святам, апісваецца рэдкі калядны народны звычай – «Цярэшкі», які захаваўся, як кажа аўтар кнігі, толькі на Дзісненшчыне, Полаччыне і часткова Случчыне. Распавядаючы пра звычай, В. Стома апісвае яго мясцовыя асаблівасці, прыводзіць шмат песняў, якія спявалі падчас «Цярэшкаў». Апісанні абрадаў дапаўняюцца прыкметамі, забабонамі, прыказкамі і прымаўкамі.




**А.С.**

■ АЎТОГРАФ

# «Я ніколі не раблю эксперымент дзеля эксперымента...»

*(Пачатак на стар. 1)*

**сустракаецеся з замежнымі літаратарамі. Што думаюць замежнікі пра Беларусь, яе культуру і літаратуру? Што, на Вашую думку, можна і трэба зрабіць, каб падняць аўтарытэт беларускай літаратуры? Якія творы, на Вашую думку, будуць запатрабаванымі не толькі ў Беларусі, але і зацікавяць перакладчыкаў ды мецьпоспех у чытачоў з іншых краінаў?**

– Вядома ж, сёння сітуацыя мяняецца, і замежнікі ўжо лепш уяўляюць месцазнаходжанне нашай краіны. Даволі часта мне як лінгвісту даводзіцца тлумачыць, што руская і беларуская мова – гэта розныя мовы, і мушу сказаць, яны (замежнікі) часта здзіўляюцца, пачуўшы такое. Падчас размоваў, бывае, праяўляецца, што ёсць шмат рэчаў, якія тыповыя і для нас, і для іх. Аднак шмат хто адзначае, што нашы людзі мала ўсміхаюцца. Гэта не кепска і не добра, гэта проста назіранне.

Калі казаць пра аўтарытэт беларускай літаратуры, то думаю, што перш чым падымаць яго ў вачах замежнікаў, варта было б папрацаваць з уласнымі чытачамі. Бывае, што замежнікі, якія актыўна працуюць з нашай літаратурай (перакладчыкі, літаратурныя агенты) ведаюць сучасных аўтарак і аўтараў лепш за некаторых беларусаў. Зноў жа, трэба пашыраць вывучэнне беларускай мовы сярод патэнцыйных перакладчыкаў, бо чым больш людзей (сярод замежнікаў) будзе ведаць беларускую мову, тым больш перакладаў будзе з'яўляцца. Яшчэ нам не хапае літаратурнай менеджарскай інстытуцыі. Напрыклад, шмат чаго, у тым ліку па прамоцыі беларускіх твораў, маглі б рабіць гэтак званыя літаратурныя агенты, але іх у нас папросту няма, і самі аўтаркі і аўтары вымушаныя гэтым займацца. Не варта забывацца, што літаратура таксама ўключаная ў рынкавыя адносіны, і каб быць паспяховай/ым, напісаць добры, якасны твор мала, трэба яшчэ яго ўдала выдаць, удала прарэкламаваць, удала прапанаваць замежным выдавецтвам і г.д.

**– Вы рабілі літаратурныя пераклады з англійскай, нямецкай, кітайскай, японскай, польскай, латышскай, рускай, украінскай моваў. Па якім прынцыпе Вы выбіраеце творы для перакладу?**

– Звычайна я кіруюся або асобай аўтаркі/аўтара, або самім творам. Спрабую знайсці нешта эксклюзіўнае ці малавядомае. Я заўсёды перакладаю без падрадкоўніка, вучу мову, граматыку, размаўляю з аўтаркай/ам, калі ёсць магчымасць, корпаюся ў слоўніках. Мяне вельмі злуе, калі людзі перакладаюць з рускай мовы (з падрадкоўніка), а потым падпісваюць «пераклад з тагальскай». Больш этычна было б пісаць *падрадкоўнік з тагальскай* – такі-та, *літаратурны пераклад* – той-та.

У мяне ёсць новая задума для чарговага перакладнога праекта, даволі маштабнага, таму спачатку трэба знайсці фінансаванне. Часта перакладчыкі застаюцца нябачнымі і іх праца кепска аплачваецца, што вельмі няправільна. Але мяне цешыць той факт, што сёння ў нас ёсць таленавітыя і адказныя перакладчыкі, хачу спадзявацца, гэтая тэндэнцыя захаваецца.

**– Летась Вы сталі пераможцай конкурса Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс» на лепшы твор для дзяцей. Нядаўна ў серыі СБП «Каляровы ровар» у Вас выйшла кніга «Сумны суп»? Чаму Вы сталі пісаць для дзяцей? Якімі і для каго будуць Вашыя новыя творы?**

– Я не магу сказаць, што гэта была нейкая такая асэнсаваная думка: «Усё, пішу для дзяцей». Больш за тое, мне здаецца, я пісала гэтую кніжку і для дарослых. Проста ў нашай літаратуры (дзіцячай) мне бракавала пэўных сюжэтаў, герояў ці пэўнага аўтарскага падыходу, і таму захацелася зрабіць штосьці самой. Да таго ж, я таксама люблю чытаць гэтак званыя дзіцячыя кніжкі. Лічу, што нам, дарослым, гэта проста неабходна, каб мы не забываліся, што ёсць шчырасць, адкрытасць, наіўнасць – якасці, якія не вельмі цэняцца ў дарослым свеце, бо часта расцэньваюцца як слабасць і інфантыльнасць, але гэта не так. Было б файна, каб дарослыя больш чыталі дзіцячых кніжак, а не крымінальных ці любоўных раманаў.

Цяпер я рыхтую новую кнігу паэзіі, дарабляю кнігу прозы, ёсць ужо і пару гісторый на чарговы зборнік для дзяцей, працую над саўнд-паэтычным праектам, разам з калегай завяршаем пераклад кнігі нямецкай паэткі, а таксама пішу слоўнік – так што, спадзяюся, мае чытачы будуць радыя.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Тарас Шаўчэнка. Мастак. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 204 с.**

Да 200-годдзя з Дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшла кніга твораў украінскага класіка ў перакладзе на беларускую мову пад назвай «Мастак». Перакладчыкам і ўкладальнікам выдання выступіў вядомы майстар мастацкага перакладу Валер Стралко. Першы раздзел кнігі «На вечным шляху да Шаўчэнкі», напісаны Іванам Дзюбам і Міколам Жулінскім, акадэмікамі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны, прысвечаны апісанню і аналізу асноўных вехаў жыцця, творчасці і светапогляду Кабзара. Другі раздзел змяшчае паасобныя вершы Тараса Шаўчэнкі розных гадоў. У трэцім – адна з найлепшых аповесцей класіка «Мастак» у перакладзе з рускай мовы. Ёсць у кнізе і шэраг выказванняў вядомых творцаў і грамадскіх дзеячаў пра Тараса Шаўчэнку.




**Мікола Захаранка. І тады ўдарыў Бом. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 220 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 41).**

Паэт, празаік, драматург, публіцыст Мікола Захаранка выдаў кнігу – цяжка паверыць, але першую сваю кнігу! – «І тады ўдарыў бом». У яе ўвайшлі апавяданні і п'есы. Ужо самі назвы, а таксама жанравыя пазнакі некаторых з іх даволі красамоўна гавораць пра кірунак творчага мыслення гэтага вельмі адметнага аўтара: «Васілевіцкія маналогі на «трасянцы», любоўна-крымінальная фантасмагорыя, камедыя-фарс... «Трагедыя чалавечага жыцця і яго святочная весялосць кіруюць думкамі і ўчынкамі герояў гэтай кнігі», – паведамляецца ў анатацыі да зборніка. Будзённыя падзеі пераплятаюцца ў аповедзе з фантастычным і казачным, таму чытачу не будзе сумна. Як і самому аўтару, які гуляецца з сумяшчэннем несумяшчальнага, балансуе на мяжы трагедыі і камізму.



**Уладзь Лянкевіч. 70% вады. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 54 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Філолаг, выкладчык, перакладчык, рок-музыкант... Уладзь Лянкевіч нарэшце парадаваў сваіх прыхільнікаў кнігай вершаў з самакрытычнай назваю «70% вады». Як лаканічна пазначана ў анатацыі, кніга «ўключае адзін скрадзены і некалькі дзясяткаў сваіх вершаў з музыкай і без». Уладзь Лянкевіч, несумненна, адзін з самых перспектыўных аўтараў свайго пакалення, які адначасна працуе ў некалькіх відах мастацтва і розных літаратурных жанрах. Некаторыя з вершаў, змешчаных у зборніку, пазначаныя не традыцыйнымі «зорачкамі», а нотным знакам: гэтыя тэксты сталіся песнямі, якія ўваходзяць у рэпертуар арт-рок і псіхадэлік гурта TonqiXod [ТонкіХод], дзе Уладзь Лянкевіч з'яўляецца вакалістам і гітарыстам.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 27
жнівень, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 27 24.08.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com